Гаючая флора

# Кмен

Звесткі аб ім ідуць карэннямі ў глыбіню стагоддзяў, у эпоху неаліту, калі нашы продкі даволі шырока прымянялі яго ў ежу. І ўсё ж ня гледзячы на яго шырокае распаўсюджанне амаль па ўсяму свету і такую доўгую гісторыю, дагэтуль недастаткова вывучаны хімічны састаў кмену і ня знойдзена тое рэчыва, якое нясе ў сабе лекавыя ўласцівасці.

Кмен цудоўна здымае болі ў страўніку, кішэчніку, язвенныя болі, цяжкія, што даводзяць аж да млоснасці галаўныя болі пры гіпертаніі.

У нашых прабабулек заўсёды не толькі на гаспадарчыя мэты, а і ў хатняй аптэчцы заўсёды было насенне кмену.

Авіцэнна аб кменю пісаў: «Спыняе ірвоту, садзейнічае пераварванню стравы. Адвар насення гоніць мачу, заспакойвае рэзі ў кішках і астанаўлівае выдзяленне семя.

•Жанчына, калі пасядзіць на яго адвары, атрымае карысць пры болях у матцы. Калі падсмажыць насенне кмену і зрабіць з яго лекавую павязку на выступаючыя гемаройныя шышкі, гэта іх знішчае. Кмен забівае чарвей, калі выпіць яго насення...»

У народнай медыцыне шырока выкарыстоўваюць абязбольваючае дзеянне кмену пры хваравітай менструацыі. Для гэтага карысна не толькі заварваць кмен, як чай, але і стала дадаваць яго ў тварог, салаты з морквай, бураком, у квашаную капусту.

У кормячых жанчын можна павялічыць колькасць малака, а таксама, калі малако «прапала» пасля высокай тэмпературы ці моцнага стрэсу, можна аднавіць лактацыю.

Для гэтага 3 ч. лыжкі насення заліваюць шклянкай вару, кіпяцяць на маленькім агню 15 хвілін, потым 10 хвілін настойваюць і працэджваюць. Выпіваць за тры разы ў дзень шклянку настою.

Мужчынам пры адэноме прастаты можна параіць бульбяны суп ці разнастайныя супы з гародніны з карэньчыкамі кмену. Збіраць іх у першы год перад тым, пакуль расліна не расквітнела. Карэньчыкі добра прамыць, не чысціць, звязаць у пучкі, так і захоўваць. У супы, стравы з гародніны апускаць перавязаныя пучкі за 15-10 хвілін да гатоўнасці стравы. Перад падачай стравы карэньчыкі можна альбо дробна пакрышыць, альбо зусім выкінуць.

Калі назіраецца затрымка мачы пры наяўнасці адэномы прастаты, то нядрэнны вынік дае гарбата з насення кмену.

**Рэцэпт:** адну сталовую лыжку насення — на паўтары шклянкі вару, варыць 5-7 хвілін, настойваць яшчэ 10 хвілін, выпіваць на працягу дня.

Пры багатых начных і дзённых паллюцыях у падлеткаў, маладых мужчын карыснымі будуць усе блюды, у якія можна дадаваць кмен (супы, салаты, тварог). Гарбата з кменам і мялісай, апроч выразнага лячэбнага эфекту, прынясе задавальненне.

Пры «сустрэчы» з ганарэяй (трыперам) кменная гарбата на 3-4 месяцы павінна стаць у мужчын і жанчын штодзённым напоем, каб не толькі лячыць гэту хваробу, але і не даць развіцца ўзыходзячай інфекцыі і прадухіліць паразу мачавога пузыра і нырак.

У народнай медыцыне адвар пладоў кмену (1 ст.лыжка на 1 шклянку вару: па 1 ст. лыжкі 3-4 разы за дзень) ужываюць пры гастрыце з паніжанай кіслотнасцю, дыспепсіі ў дзяцей, скапленні газаў у кішэчніку, малакроўі, гіпагалактыі (недахопе малака ў маці). Для гэтага есці хлеб з кменам, піць смятану з кменам, праваранyю на працягу 5 хвілін (1 ст. лыжка пладоў на 1 шклянку смятаны). Плады (насенне) кмену выкарыстоўваюць у кулінарыі, у хлебапякарнай, кандытарскай, кансерўнай, засолачнай (пры засолцы гуркоў, памідораў, капусты) і лікёра-гарэлачнай вытворчасці.

З народнага лячэбніка

## Сродкі ад зубнога болю

Як ні пакутлівы зубны боль, але не заўсёды хворы можа адразу звярнуцца за дапамогай да доктара. Часта пад рукой аказваюцца хатнія сродкі, якія і ратуюць хворага ад пакут зубнога болю.

У многіх дома ёсць шалфей, які заварваюць, і цёмным наварам палошчуць хворае месца ў роце, імкнучыся магчыма даўжэй трымаць навар на хворым участку дзёсен. Астылы ў роце навар трэба мяняць. Рабіць гэта прыходзіцца часта: ад трох да пяці разоў на працягу паўгадзіны ці чвэрці гадзіны, пасля чаго боль сціхне.

Узяць лустачку свіногa сала (са скуркай, свежага ці салёнага). Калі сала салёнае, соль трэба абскрэсці. Гэта лустачка кладзецца на хворае месца, паміж дзяснoй і шчакой. Трымаць сала трэба ў роце хвілін 15-20, пакуль не сціхне боль. За гэты час боль звычайна сціхае, і хворы надоўга пазбаўляецца ад сваіх пакут.

Кладуць у вуха з таго боку шчакі, дзе баліць зуб, карэньчык трыпутніку і трымаюць яго там да знікнення болю. Праз паўгадзіны боль праходзіць.

Народныя замовы

## На прылуку хлопца

Пайду я ў чыстае поле, ёсць у чыстым полі белы крэчат. Папрашу я бела крэчата: злятаў бы ён у чыстае поле, у сіняе мора, у крутыя горы, у цёмныя лясы, у зыбучыя балоты. І папрасіў бы ён акаянную сілу, каб дала яна яму дапамогі схадзіць яму ў высокі церам і заспець яго хаця б пасярод ночы соннага, і сеў бы белы крэчат на белыя грудзі, на рэцівое сэрца, на гарачую печань і ўклаў бы рабу Божаму (такому-сь) са сваіх акаянных вуснаў, каб ён не мог бы без рабы Божай (такойсці) ні жыць, ні быць, ні піць, ні есці.

Казка.

Фотаэцюд Валерыя БЫСАВА.

Куток гаспадыні

## Буракі, фаршыраваныя рысам

*4 буракі, 2 ст. лыжкі рысу, цыбуліна, 3 ст. лыжкі сметанковага масла, 1 ч. лыжка меленых сухароў, 1/2 шклянкі смятаны, зеляніна кропу, соль, 2 яйкі.*

Буракі аблупіць, выразаць сяродак так, каб атрымаліся кубачкі, запоўніць фаршам, пакласці на патэльню, змазаную маслам, пасыпаць абсмажанымі сухарамі, спрыснуць растопленым маслам, запекчы ў духоўцы. Падаваць са смятанай.

**Прыгатаванне фаршу:** рыс перабраць, прамыць, заліць падсоленым варам, варыць да гатоўнасці, адкінуць на друшляк. Рыс злучыць з дробна накрышанымі яйкамі, пасераванай на сметанковым маслі цыбуляй, дробна накрышанай зелянінай кропу, соллю, перамяшаць.

## Гарбуз, смажаны ў цесце

*800 г гарбуза, 4 ст. лыжкі алею, 4 ст. лыжка варэння, соль. Для цеста: 1 шклянка мукі, 4 яйкі, 3/4 шклянкі вяршкоў, 1 ст. лыжка сметанковага масла, цукар, соль.*

Ачышчаны гарбуз нарэзаць невялікімі лустачкамі-скібачкамі, пасаліць, абсмажыць на патэльні з абодвух бакоў, даць астынуць, затым абмакнуць у цеста і смажыць у невялікай колькасці масла з абодвух бакоў да ўтварэння залацістай скарынкі.

Пры падачы паліць фруктовым варэннем.

**Прыгатаванне цеста:** жаўткі расцерці з цукрам і соллю, злучыць з вяршкамі, прасеянай мукой, маслам, размяшаць да ўтварэння аднароднай масы. Уліць малако, узбітыя бялкі і асцярожна перамяшаць.

## Кактэйль «Чырвонае малако»

Змяшаць: 20 мл малінавага соку, 10 мл каньяку, 0,5 мл цукровага сіропу, 4-5 кропель лімоннага соку. Бакал дапоўніць ахалоджаным малаком. Можна пакласці 2-3 кавалачкі лёду (па 6-8 г кожны). Піць праз саломінку.

## «Экспресс» по-кричевски

Да, любят у нас нововведения некоторые руководители. Прямо хлебом их не корми, а дай поэкспериментировать. Нет-нет да и подкинут что-нибудь «передовое». Главное, чтобы новинка эта носила иностранное название. Глядишь — с человека можно и лишнюю денежку содрать, сервисное обслуживание оставив по-прежнему скверным.

Вот и в нашем провинциальном городе Кричеве простой автобус, следующий по маршруту N 2, почему-то обозвали «Экспрессом». И стоимость поездки в обыкновенном «Икарусе» подскочила с 80 до 120 рублей.

Более того, «новаторы» из автопарка N 3 пошли еще дальше. Они продали кричевлянам проездные билеты на декабрь, тем самым предоставив им право бесплатного проезда в этом месяце на автобусах всех маршрутов. Вроде бы все ясно. Так нет же, теперь при поездке на «двойках» кондукторы требуют с владельцев проездных билетов доплачивать по 40 рублей за поездку. Мол, не в простом автобусе едете, а в «Экспрессе»!

Выходит, если вы купили себе костюм и через неделю зайдете в тот же магазин, то с вас за него потребуют доплатить эдак тысяч десять? Как вам идейка? Дарю бесплатно, возможно, кто из организаторов сферы обслуживания и торговли воспользуется «опытом передовиков» из Кричева. А пока, добро пожаловать в «Экспресс» по-кричевски! Будет чем похвалиться перед родными и знакомыми.

Что же изменилось в обслуживании пассажиров в кричевских так называемых «Экспрессах»? Может, они стали ездить быстрее, пассажиры сидят в мягких креслах, а кондукторы предлагают им чашечку кофе, чай с лимоном, бутерброды с икрой либо свежие газеты? Отнюдь нет. Все по-старому, кроме стоимости проезда. Простая обдираловка. Ею возмущены все, кому «посчастливилось» хоть раз проехаться в «Экспрессе».

**Александр БОЛДОВСКИЙ.**

*У XXI стагоддзі нам прадказваюць 7 сусветных катастроф*

# Пужаюць, а не страшна

На пачатку тысячагоддзя людзям хочацца зазірнуць у заўтра. Прапануем чытачам найбольш цікавыя, на наш погляд, прароцтвы на будучыню — як блізкую, так і аддалёную. Ад сёлетняга да 2010 г. чакаюцца разбуральныя землятрусы на Камчатцы (Курыльскія астравы), у Прыбайкаллі (Іркуцк, Улан-Удэ). І на паўночным Каўказе, паблізу гарадоў Сочы, Кіславодск, Пяцігорск, Есентукі, Стаўрапаль, Анапа, Грозны, Махачкала, Дэрбент, на Алтаі.

**У сёлетні, 2002 год,** яшчэ раз, але ўжо ў апошні, усё каралеўства (на думку экспертаў, маецца на ўвазе Расія) будзе дрыжэць ад страху на працягу 25 гадоў. Будуць весціся бязлітасныя бітвы. Вёскі, гарады будуць спалены.

Тлумачальнікі Настрадамуса называюць чарговую дату, на якую «пераносіцца» канец свету. А між іншым яшчэ А. Шапенгаўэр пісаў, што «кожны прымае канец свайго кругагляду за канец свету».

**У 2003 годзе ў Расіі** праектны рэсурс асноўных сродкаў прыблізіцца да крытычнай велічыні. Праўда, многія эканамісты лічаць, што гаспадарчы крызіс дазволіць папярэдзіць тэхналагічны апакаліпсіс. Клін клінам выбіваюць...

**Да 2020 г.** забруджванне акаляючага асяроддзя дасягне такіх памераў, пры якіх жыццё на планеце Зямля паступова пачне затухаць. Апытанні паказваюць, што 74% расіян ужо зараз пабойваюцца глабальнай экалагічнай катастрофы.

**26 кастрычніка 2028 г.** буйны астэроід максімальна наблізіцца да Зямлі. А ў выпадку, калі ён пляснецца ў акіян, цунамі змые прыбярэжныя гарады. Калі ж ён «прызямліцца» на сушы, то ўтворыцца 30-кіламетровы кратэр, а пыль зацямніць сонца на месяцы.

Аптымісты лічаць, што існуе ўсяго 1 шанец з 22000, што на Зямлю ўпадзе касмічны аскялёпак, здольны прынесці адчувальную шкоду.

Вучоныя спадзяюцца да 2010 года разлічыць арбіты 900 небяспечных «прышэльцаў» і распрацаваць сцэнарыі, аж да дастаўкі на астэроід ядзернага зараду.

**У 2047 годзе** адбудуцца вывяржэнні вулканаў у Італіі і ЗША. Гэта прывядзе да зніжэння тэмпературы на Зямлі на 15-20 градусаў і азнаменуе пачатак новага ледніковага перыяду.

Праўда, яшчэ Іммануіл Кант заўважыў, што «краіна можа пазбавіцца моцных землятрусаў, калі па суседству пачынае дзейнічаць вулкан... Такім чынам, нярэдка тое, што прыводзіць нас у жах, служыць нам на карысць».

**Праз 50-100 гадоў** узровень Сусветнага акіяну павысіцца ад 50 сантыметраў да 1 метра. Уйдуць пад ваду Багамскія астравы, большая частка Бангладэш і Сенегала. Лёс Венецыі паўтораць Новы Арлеан, Амстэрдам, Шанхай, а таксама Санкт-Пецярбург, Растоў-на-Доне, Сочы.

На арктычным узбярэжжы пачне адтайваць вечная мерзлата. 40% берагоў Еўрапейскай часткі Расіі адступяць як мінімум на 100 метраў. У зону рызыкі трапіць пабярэжжа СНД.

*(У матэрыяле выкарыстаны прароцтвы і прадказанні, прагнозы і разлікі М.Настрадамуса, А.Эйнштэйна, астранома Г.Вандэліуса, матэматыкаў Б.Марка і Т.Нілда, С.Хакінга, іншых сучасных вучоных).*

**Падрыхтавалі Людміла і Анатоль ПРАШАК.**




*"Беларускі Ўсход"*

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.

На беларускай і рускай мовах.

***Заснавальнік*** — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141**

Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*

*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 3 студзеня 2002 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1412 ас.** Аб'ём І друк. аркуш. **Заказ № 1.**